**№ 139 (1952)**

Чацвер, 29 ліпеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +22...+24, уначы — +15...+17, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +20...+22, навальніца, уначы — +16...+18, навальніца; у Гродне ўдзень — +22...+24, уначы — +15...+17, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +21...+23, уначы — +13...+15, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +26...+28, навальніца, уначы — +18...+20, навальніца; у Магілёве ўдзень — +24...+26, навальніца, уначы — +15...+17, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Не адпрацуеш — не будзеш вучыцца?

*Залічаныя на першы курс студэнты Баранавіцкага універсітэта да пачатку вучобы будуць працаваць у будатрадах па абуладкаванні сваёй ВНУ.*

Сёння ў Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце (БарДУ) створаны тры студэнцкія атрады, сфарміраваныя са студэнтаў, залічаных на першы курс ВНУ. І ўжо з 2 жніўня хлопцы і дзяўчаты прыступяць да працы.

Як тлумачыў БелаПАН рэктар БарДУ **Васіль КАЧУРКА**, каб паспець прывесці ў парадак аўдыторыі да пачатку навучальнага года, адміністрацыя універсітэта вымушана скарыстаць дапамогу студэнтаў. Яны будуць прыцягвацца да работ па мыцці вокнаў і прыборцы смецця, якое застаецца пасля заканчэння будаўнічых работ у будынках і на сумежных тэрыторыях.

Паводле слоў В.Качуркі, кожны атрад павінен будзе бязвыплатна адпрацаваць два тыдні на карысць роднай навучальнай установы.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

## Колькі каштуе сабраць дзіця ў школу?

*У магазінах Мінска адкрыліся школьныя кірмашы. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела нехарчовых тавараў галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама* **Любоў ГАЎРУЧЭНКА.**

Паводле яе слоў, пакупнікам прапанаваны ўвесь асартымент тавараў, неабходных школьнікам.

Спецыяліст адзначыла, што сёлета абутак для вучняў малодшых класаў каштуе ад 15 да 39 тысяч рублёў, для дзяўчынак-старшакласніц — ад 24 да 42 тысяч рублёў. Кошт касцюмаў для хлопчыкаў (пінжак, штаны) вагаецца ў сярэднім ад 40 да 100 тысяч рублёў, камплект камізэлька і штаны — 21—38 тысяч рублёў, кашуля — 8—24 тысячы рублёў, штаноў — 10—25 тысяч рублёў. Сярэдні кошт камплекта школьнага адзення для дзяўчынак (спадніца/штаны і камізэлька) складае 35—60 тысяч рублёў, спадніцы — ад 10 да 25 тысяч рублёў, штаноў — 15—35 тысяч рублёў. Кошт укамплектаванага партфеля першакласніка (разам з ранцам і пісьмова-канцылярскімі прыладамі) складае ад 58 тысяч рублёў.

Любоў Гаўручэнка паведаміла таксама, што для экіпіроўкі першакласніка неабходна ад 100 да 250 тысяч рублёў, старшакласніка — ад 180 да 350 тысяч рублёў.

Па рашэнні Міністэрства адукацыі Беларусі, з новага 2004/2005 навучальнага года дзённікі ўнесены ў пералік вучэбна-метадычнай літаратуры. Таму дзённікі можна набыць у школе разам з падручнікамі.

З 26 па 31 жніўня на плошчах Нацыянальнага выставачнага цэнтра "БелЭкспа", размешчанага па вуліцы Я.Купалы, 27, будзе працаваць кірмаш-распродаж тавараў школьнага асартыменту "Прывітанне, школа! — 2004".

Як паведаміў намеснік дырэктара па камерцыйнай рабоце ААТ "ГУМ" Сяргей Рашчынскі, з 1 жніўня прадастаўляецца 10-працэнтная скідка на тавары для школьнікаў: швейныя і абутковыя вырабы, канцылярскія тавары. Так, скідку можна будзе атрымаць пры куплі швейных вырабаў для школьніка малодшых класаў на суму ад 100 тысяч рублёў, для старшакласніка — ад 140 тысяч рублёў, абутковых вырабаў — ад 60 тысяч рублёў і ад 80 тысяч рублёў адпаведна. Акрамя таго, пры куплі поўнай экіпіроўкі коштам ад 300 тысяч рублёў прадастаўляецца крэдыт на тры месяцы пад 5 працэнтаў без першапачатковага ўзносу. Для гэтага неабходна прадаставіць даведку аб сярэднямесячным даходзе і гарантыйны ліст з месца працы.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Хто хутчэй збярэ камп'ютэр?

*Першы чэмпіянат Беларусі па зборцы камп'ютэраў — PC DIY 2004 — пройдзе 21 жніўня ў Мінску.*

Удзел у чэмпіянаце бясплатны, і ўдзельнічаць у ім можа любы жадаючы. Для ўдзелу ў чэмпіянаце неабходна зарэгістравацца на афіцыйнай старонцы чэмпіянату — http://www.winner.gigabyte.ru/by/

Галоўны прыз чэмпіянату — камп'ютэр CD-LIFE з TFT-маніторам. Таксама пераможца гульні будзе запрошаны на фінальныя спаборніцтвы Расійскага чэмпіянату ў Маскву. Гасцямі чэмпіянату стануць спецыяльна запрошаныя госці з Тайваня — прадстаўнікі кампаніі "Gigabyte".

**Аляксей АРЭШКА.**

**ХТО ЁСЦЬ ХТО**

# Сябра па няшчасці?

## Да нас прыехаў палітык, якога абвінавачваюць у генацыдзе

*Учора вуліцы К.Маркса і Ф.Энгельса ў Мінску зноў нагадвалі месца правядзення ваенна-палявой гульні "Зарніца". Шматлікія міліцэйскія легкавікі і "людзі ў штацкім" перакрылі рух машын і пешаходаў. Быў чутны духавы аркестр.*

*"Якая нагода?", — пацікавіліся мы. Аказваецца, да нас прыехаў з трохдзённым афіцыйным візітам Умар Хасан Ахмад аль-Башыр, лідэр чарговага "суседа Беларусі" — Судана. Не адзін прыехаў, з жонкай. Нагадаем, што Судан — гэта менавіта тая афрыканская краіна, у якой з нагоды гуманітарнай катастрофы загінулі толькі за некалькі апошніх месяцаў дзесяткі тысяч чалавек. Шматтысячныя чэргі ўцекачоў з Судана стаяць на межах...*

*Як і Лукашэнка, суданскі лідэр знаходзіцца ў міжнароднай ізаляцыі, краіна, якую ён узначальвае, — пад пагрозай міжнародных санкцый.*



У Судане, цэнтральнаафрыканскай краіне, няма незалежных каналаў тэлебачання і радыё, на дзяржаўным тэлебачанні ўведзены пасады вайсковых цэнзараў, на незалежную прэсу ўчыняецца ціск. У часы кіраўніцтва ў Іраку Саддама Хусейна кіраўніцтва Судана неаднаразова абвінавачвалася міжнародным супольніцтвам у супрацоўніцтве з ваенным кіраўніцтвам Ірака, асабліва што тычылася праграм распрацоўкі ядзернай і хімічнай зброі...

Суданскага прэзідэнта ў Мінску сустракаюць на самым высокім узроўні. Дзеля яго і ягонай жонкі арганізаваны спецыяльныя праграмы — у тым ліку і наведванне лепшых прадпрыемстваў краіны і перамовы з Аляксандрам Лукашэнкам. Газета "Советская Белоруссия", орган прэзідэнцкай Адміністрацыі, напярэдадні візіту суданскага лідэра ў Мінск нават выйшла пад "шапкай": "Сардэчна запрашаем, прэзідэнт Судана!" і з вялікім рэпартажам са сталіцы гэтай краіны — Хартума. Беларускае тэлебачанне так і стракаціць загалоўкамі накшталт "Судан стаў бліжэй" і г.д. На бязрыб'і, як кажуць, і рак — рыба.

Тым не менш, як перадае Радыё Свабода, дзяржаўныя СМІ чамусьці не паведамляюць, што "высокі госць з Афрыкі" прыйшоў да ўлады ў выніку вайсковага перавароту ў 1989 годзе, што тады яго падтрымалі ісламскія экстрэмісты, і цяпер Судан стаў другой пасля Ірана фундаменталісцкай ісламскай краінай.

Летась у правінцыі Дарфур Судана пачалося паўстанне, дагэтуль там доўжыцца грамадзянская вайна, якая перарасла ў генацыд і гуманітарную катастрофу. Паводле звестак ААН, там ужо загінула каля 50 тысяч чалавек, з раёна баявых дзеянняў збегла больш за мільён чарнаскурых суданцаў. Арабы-апалчэнцы з падтрымкай цэнтральнага ўрада ператварылі лагеры ўцекачоў у канцэнтрацыйныя, рабуюць і гвалцяць суданцаў. Урад замінае дастаўцы замежнай гуманітарнай дапамогі тысячам згаладалых уцекачоў.

Палата прадстаўнікоў Кангрэса ЗША ўжо назвала дзеянні суданскіх улад у правінцыі Дарфур генацыдам. Дзяржсакратар Колін Пауэл нядаўна выступіў з шэрагам патрабаванняў да афіцыйнага Хартума, і найперш — спыніць ісламскіх баевікоў з арганізацыі "Джыганвэйт". Суданскі ўрад нібыта абяцаў палегчыць дастаўку гуманітарнай дапамогі, але аспрэчыў высновы, што ён падтрымлівае дзеянні мусульманскіх экстрэмістаў.

У свой час у Судане хаваўся "тэрарыст нумар адзін" Усама бен Ладэн, і краіну абвінавачвалі ў падтрымцы міжнароднага тэрарызму. З ініцыятывы ЗША і Еўрасаюза ў Савеце Бяспекі ААН зараз разглядаецца праект рэзалюцыі наконт санкцый супраць Судана, не выключаецца накіраванне ў краіну міжнародных міратворцаў. Вялікабрытанія і Аўстралія ўжо далі згоду на пасылку сваіх міратворцаў у Судан.

У сакавіку 2002 года менавіта ў Судане быў арыштаваны першы са спісу 22-х самых небяспечных тэрарыстаў свету — Абу Анас Аль-Лібі, самы высокапастаўлены член "Аль-Каеды". Гэты тэрарыст падазраецца ў тым, што ён мае дачыненне да выбухаў у амерыканскіх пасольствах у Кеніі і Танзаніі ў 1998 годзе, а таксама ў няўдалым замаху на прэзідэнта Егіпта Хосні Мубарака.

На сённяшні дзень, як перадаюць міжнародныя інфармацыйныя агенцтвы, у суданскай правінцыі Дарфур працягваюцца этнічныя чысткі...

Нагадаем, што прэзідэнт Судана — адзін з нямногіх замежных лідэраў, які пажадаў наведаць з афіцыйным візітам Мінск. Апошнім часам, апроч "звыклых" кіраўнікоў краін СНД, у Беларусь прыязджаў хіба толькі прэзідэнт Лівана.

На думку аналітыкаў, адзіная прычына, якая прывяла прэзідэнта Судана ў Мінск, гэта зброя. І ўсе візіты на мінскія прадпрыемствы, арганізаваныя беларускім бокам для Умара Хасан Ахмад аль-Башыра, — не болей чым бясплатная экскурсія. Дарэчы, зусім нядаўна стала вядома пра чарговы міжнародны скандал, калі Расія прадала ў Судан свае знішчальнікі МІГ-29.

**Наталля ГАК.**
**Фота БелТА.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

*Уладзімір КОЛАС, дырэктар ліквідаванага ўладамі Беларускага гуманітарнага ліцэя:*

## «Дзень ведаў будзем святкаваць ля свайго будынка»

*Хутка пачатак навучальнага года. З якімі планамі, мэтамі і настроем сустракаюць яго змагары за Беларускі гуманітарны ліцэй — пра гэта рэпарцёр "Народнай волі"* **Вольга КЛАСКОЎСКАЯ** *гутарыць з* **Уладзімірам КОЛАСАМ.**

**— Спадар Колас, якія падзеі разгортваюцца вакол Вашай навучальнай установы зараз?**

— Цяпер — паўза. У ліцэістаў і выкладчыкаў — вакацыі. Але тыя, хто ў Мінску, збіраюцца кожны чацвер ля ліцэя. Абменьваемся навінамі, ладзім паэтычныя сустрэчы, ды і проста прыемна бачыць адзін аднаго.

**— Нягледзячы на складаныя варункі, была зроблена аб'ява пра ўступныя іспыты. Колькі чалавек прыняло ўдзел і якія вынікі?**

— З гэтым трэба асцярожна. Як толькі мы далі афіцыйную аб'яву пра набор на курсы, зарэгістраваныя на прыватнага прадпрымальніка, "наехала" падатковая інспекцыя і ўладальніцу пасведчання аштрафавалі на салідную суму, хаця ніякага набору яшчэ не было і ніякіх грошай яна ні за што не атрымлівала. Акрамя таго, спадара Баршчэўскага выклікалі ў "полицию нравов". Цікавіліся, ці не прадаем мы дзяцей у рабства(!). Як яму там паведамілі, рабілася гэта па "наводцы" гарадскога ўпраўлення адукацыі. Пасля мінулагодніх падзей нас такія ўчынкі з боку прадстаўнікоў гэтай установы ўжо не здзіўляюць. Гэтыя людзі здольныя на многае. Вось толькі адабраны ў нас будынак стаіць неадрамантаваны і пусты. Ніякага ліцэя яны там не здолелі зрабіць. Бо гэта — не хлуснёй займацца.

Да нас рэгулярна тэлефануюць і вучні, якія жадаюць вучыцца ў ліцэі, нягледзячы на тыя ўмовы, у якіх мы знаходзімся, і іх бацькі... Так што будзем працягваць сваю справу.

**— Колькі навучэнцаў засталіся верныя родным сценам?**

— Практычна ўсе. Але дакладна адказаць на гэтае пытанне зможам бліжэй да 1 верасня. Дарэчы, Дзень ведаў зноў будзем святкаваць каля свайго будынка.

**— Як склаўся лёс выпускнікоў?**

— Амаль усе паступілі ў тыя навучальныя ўстановы, у якія імкнуліся. Вялікая частка накіроўваецца за мяжу — у Германію, Чэхію, Польшчу і Літву. Лічу, што ў сувязі з працэсам ідэалагічнага ачмурэння, які адбываецца цяпер у беларускіх ВНУ, навучацца гуманітарным дысцыплінам у гэтых краінах ім будзе значна лепей. Лічу таксама, што сваёй мужнасцю і самаахвярнасцю нашыя выпускнікі заслужылі гэтага, і ўпэўнены, што ўзровень ведаў і маральнага выхавання, які яны атрымалі ў ліцэі, дазволіць ім годна прадстаўляць Беларусь за мяжой.

**— Спадар Колас, як у цэлым ідзе падрыхтоўка да новага навучальнага года?**

— Можаце сабе ўявіць, што праблем вельмі многа. Якраз цяпер мы займаемся забеспячэннем навучальнага працэсу ў, мякка кажучы, неардынарных абставінах. Але ў сувязі з асаблівасцю нашай сітуацыі і акалічнасцямі, пра якія я распавёў у пачатку гэтага інтэрв'ю, я ўстрымаюся ад падрабязнага адказу.

**— Які настрой у бацькоў, ліцэістаў, выкладчыкаў?**

— Безумоўна, ёсць трывога. Бо ўсё гэта няпроста і нялёгка. Але мы — разам і робім добрую і цікавую справу. Таму настрой бадзёры і рашучы.

**— Ужо вядома, дзе і як будзе адбывацца навучанне?**

— Як і раней — на высокім узроўні, з выдатнымі, высокапрафесійнымі выкладчыкамі, са здольнымі і цікаўнымі вучнямі. А месца мы знойдзем, бо Беларусь — гэта, нягледзячы ні на што, наша краіна!

# Сколько же в стране безработных?

*"Показательным является развитие нашей экономики и уровень безработицы: она порядка 1,5—1,2 процента. Мы фактически вышли на тот уровень безработицы, который готовы "терпеть"... У нас сегодня по стране вакансий "в разы" больше, чем безработных. Это тоже очень большая победа нашей экономики".*

**(Из выступления Александра Лукашенко перед журналистами на пресс-конференции 20 июля 2004 года.)**



А теперь обратимся к официальной статистике. В докладе Министерства статистики и анализа о социально-экономическом положении страны за январь—июнь этого года сказано, что уровень безработицы на конец июня составил 2,4 процента. На одну вакансию приходится 2 безработных. Более того, в этот период работали в режиме вынужденной неполной занятости 180 тысяч человек, или 5 процентов среднемесячной численности работников. В вынужденных отпусках по инициативе нанимателей находилось 130 тысяч человек, или более 3 процентов занятых в экономике граждан. А это ведь часть скрытой безработицы.

А можно ли считать человека работающим, если, являясь официально членом колхоза, он вышел за месяц пять раз на работу?

Так сколько же у нас безработных?

**Сергей ИВАНОВ.**

# Ці вызваляць Марыніча?

Вера Страмкоўская просіць генпракурора Беларусі змяніць меру стрымання для Міхаіла Марыніча

Следчых дзеянняў у дачыненні да вядомага грамадскага і палітычнага дзеяча Міхаіла Марыніча практычна не вядзецца, а здароўе яго падчас знаходжання ў следчым ізалятары КДБ пастаянна пагаршаецца. Абаронай ужо накіраваны ліст на імя генеральнага пракурора В.Шэймана з хадайніцтвам аб змяненні меры стрымання для палітыка, бо астатнія інстанцыі падобнага рашэння прыняць не могуць. Аб гэтым паведаміла журналістам адвакат Марыніча Вера Страмкоўская.

Паводле яе слоў, працягваючы 25 чэрвеня тэрмін утрымання М.Марыніча пад арыштам, пракуратура ўказала на неабходнасць правядзення важных следчых дзеянняў. З той пары быў праведзены адзін допыт Марыніча, які датычыўся канфіскаванай у гаражы яго сына аргтэхнікі.

В.Страмкоўская зазначыла, што пісаць скаргі ў суды і пракуратуры — гэта тупік. Але трэба працягваць працаваць, не даваць работнікам праваахоўных органаў заспакоіцца, каб гэтая справа не засталася незавершанай. Таму, паводле слоў адваката, зараз напісаны адпаведныя лісты ў Міністэрства юстыцыі і Вярхоўны суд. Калі яны і не дадуць станоўчага адказу, то В.Страмкоўская збіраецца звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН. Разам з тым яна спадзяецца, што 26 жніўня М.Марыніч будзе вызвалены. Паводле яе слоў, у следства няма ніякіх даных, якой канкрэтна асобе належыць знойдзены на лецішчы М.Марыніча пісталет. Таксама не пацвярджаюцца факты захоўвання палітыкам дакументаў, што ўяўляюць дзяржаўную тайну. Такім чынам, пакуль няма доказаў віны зняволенага.

На думку сына палітыка Ігара Марыніча, яго бацьку ўтрымліваюць у СІЗА для таго, каб запалохаць усіх астатніх дзяржаўных дзеячаў. *"Гэта прынцып сіцылійскай мафіі. Ёсць уваход, але няма выхаду",* — зазначыў Ігар Марыніч.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# ЕГУ зліквідавалі

## Загадам Міністэрства адукацыі Беларусі анулявана ліцэнзія на адукацыйную дзейнасць Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта




*27 ліпеня міністр адукацыі Беларусі Аляксандр РАДЗЬКОЎ падпісаў загад № 838 аб ануляванні ліцэнзіі на адукацыйную дзейнасць, выдадзенай Еўрапейскаму гуманітарнаму універсітэту.*

Такое рашэнне было прынята 26 ліпеня на калегіі Міністэрства адукацыі.

Нагадаем, што 21 ліпеня Еўрапейскі гуманітарны універсітэт атрымаў прадпісанне аб неадкладным высяленні з будынка па адрасе: вуліца П.Броўкі, 3, у якім размяшчаецца універсітэт. Прадпісанне атрымана з Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Беларусі, якому належыць будынак. За некалькі дзён да гэтага быў спынены дагавор арэнды з ЕГУ.

*"Па заключэнні юрыстаў, гэтае патрабаванне з'яўляецца неабгрунтаваным, — паведамілі ў рэктарацe універсітэта. — Гэтыя дзеянні пазбаўляюць ЕГУ магчымасці працягваць сваю дзейнаць. Студэнты і выкладчыкі губляюць магчымасць вучыцца і працаваць ва універсітэце, які так стойка абаранялі апошнія паўгода".*

Акрамя таго, як паведаміў рэктарат, міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў *"фактычна прад'явіў ультыматум ЕГУ, запатрабаваўшы неадкладнай адстаўкі рэктара* **Анатоля МІХАЙЛАВА;** *у адваротным выпадку, як адзначыў міністр, ЕГУ чакаюць вялікіяепрыемнасці".*

Зараз ЕГУ вядзе перамовы аб пераводзе студэнтаў у іншыя ВНУ. У прыватнасці, факультэт тэалогіі універсітэта прыняў рашэнне аб пераходзе ў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

ЕГУ быў створаны ў 1992 годзе. Сёння ва універсітэце вучацца каля тысячы студэнтаў, каля 100 магістрантаў і 50 аспірантаў. Ва універсітэце створана 10 факультэтаў і больш за 10 навукова-даследчых цэнтраў, пяць магістэрскіх праграм, аспірантура, багацейшая бібліятэка па гуманітарных навуках.

Па выніках апытання інфармацыйна-аналітычнага партала "Газета СНГ" і Фонду вывучэння новых незалежных дзяржаў, ЕГУ ўвайшоў у спіс самых прэстыжных ВНУ СНД. У гэтым спісе ён — адзіны недзяржаўны універсітэт класічнага профілю.

**Вольга АСІПЕНКА.**
**Фота photo.bymedia.net**

# А.Лябедзька зноў судзіцца з Белтэлерадыёкампаніяй

На 16 жніўня перанесена судовае пасяджэнне па іску старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоля Лябедзькі да Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Беларусі (НДТРК), тэлекампаній АНТ, СТБ і стваральнікаў фільма "Дарога ў нікуды". Такое рашэнне прыняў суд Першамайскага раёна Мінска ў сувязі з няяўкай у суд усіх адказчыкаў, паведаміла прэс-служба АГП.

Прычынай падачы іску аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі А.Лябедзькі стала дэманстрацыя фільма "Дарога ў нікуды" на каналах БТ, АНТ і СТБ. У фільме за кадрам прагучалі наступныя словы: "Калі спадар Мілер загадаў спыніць паступленне газу ў нашу рэспубліку ў 20-градусны мароз, жадаючы прымусіць наша кіраўніцтва за бясцэнак аддаць яму "Белтрансгаз", фактычна ў падтрымку гэтай акцыі выступіў псеўдапатрыёт Лябедзька. Абліваючы брудам сваю краіну, наводзячы паклёп на прэзідэнта, ён дапамагаў спадарам накшталт Сванідзе маральна апраўдаць гэтую бесчалавечую акцыю. Толькі ў жудасным сне можна ўявіць, як хутка распрадаў бы гэты малойчык нацыянальнае багацце сваім сябрам-алігархам, калі б нейкім цудам аказаўся ва ўладзе ў Беларусі". Названы закадравы тэкст суправаджаўся паказам відэараду, на якім быў прадстаўлены Анатоль Лябедзька падчас выступлення, аднак тое, пра што ён гаварыў, не было перададзена.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

# Берегись молнии!

27 июля в Минске выпала еще одна лошадиная доза осадков — полумесячная норма! В Венецию, как 25 июля, город не превратился, однако снова не обошлось без жертв. На этот раз причиной трагедии стал не потоп, а молния.

Согласно оперативной сводке Министерства чрезвычайных ситуаций, от грозового разряда молнии на Цнянском водохранилище погиб молодой человек, разнорабочий строительной организации. Еще один молодой человек, слесарь Минского автомобильного завода, с электротравмой и ожогами тела госпитализирован. Оба они находились не в воде, а на суше.

Нынешним летом это уже не первый случай, когда молния наделала беды. В минувшее воскресенье в Полоцком районе от удара молнии погибли трое стоявших под деревом новополочан. Жертвами стали двое малолетних детей и их отец. Мать с электрическими ожогами попала в больницу.

Обращает на себя внимание то, что причиной трагедии стало нарушение элементарных правил поведения в грозу. В таких случаях категорически нельзя спасаться от непогоды, становясь под высокие объекты, особенно под деревья. Также не следует находиться в воде или около нее.

Как сказал в интервью *"Белорусским новостям"* начальник Республиканского центра пропаганды и информации МЧС **Олег Голубев,** если гроза застала на открытой местности, лучше спрятаться в какую-нибудь ложбинку, быть как можно ближе к земле — опуститься на корточки или вовсе лечь на нее.

**Кирилл ПОЗНЯК.**

ПУЛЬС

## На электрычцы, як на самалёце...

*У Беларусі вядзецца праца над праектам беларускага ўчастка хуткаснай чыгуначнай магістралі Берлін—Варшава—Мінск—Масква.*

Паводле слоў першага намесніка начальніка Беларускай чыгункі Уладзіміра Жарало, да 2010 года сумесна з польскімі, расійскімі і нямецкімі чыгункамі плануецца павялічыць хуткасць пасажырскіх зносін да 160 км/г. Кожная з дзяржаў будзе фінансаваць будаўніцтва свайго хуткаснага ўчастка самастойна. У Беларусі напрамак Брэст—Мінск—Орша—Асінаўка мае працягласць 612 кіламетраў.

Як адзначыў Уладзімір Жарало, кошт рэалізацыі гэтага праекта немалы, аднак ужо зараз планавыя рамонтныя работы праводзяцца з улікам павелічэння хуткасці руху да 160 км/г.

**Аляксей АРЭШКА.**

## У Пінску пачалі штрафаваць патэнцыяльных тапельцаў

Толькі за мінулы тыдзень у Пінску (Брэсцкая вобласць) больш як сарака купальшчыкам, якія парушылі правілы паводзін на вадзе, прыйшлося заплаціць за гэта штраф, сярэдні памер якога складае адну базавую велічыню. Тых, хто не выконвае ўстаноўленыя нормы паводзін падчас купання, прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасці супрацоўнікі міліцыі, якія штодня дзяжураць разам з ратавальнікамі на двух гарадскіх пляжах.

Летась да парушальнікаў ставіліся больш лаяльна — штрафавалі толькі за ўжыванне спіртных напояў на пляжах і "п'янае" купанне. Сёлета да адказнасці вырашылі прыцягваць і за іншыя парушэнні: заплывы за буі, купанне ў забароненых месцах, набліжэнне да суднаў, што рухаюцца па рацэ, плаванне на бярвеннях, а таксама за забруджванне вадаёмаў.

Як паведаміў БелаПАН начальнік Пінскай ратавальнай станцыі Уладзімір Качаргін, такія меры дапамагаюць папярэдзіць няшчасныя выпадкі на вадзе.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

## Прыкмета Полацка — дэмаграфія вымірання?

*Статыстыка сведчыць аб няўхільным пагаршэнні дэмаграфічнай сітуацыі ў Полацку. За першае паўгоддзе бягучага года ў Полацкім загсе зарэгістравана 352 нованароджанных, што прыкметна менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года, калі пасведчанні аб нараджэнні атрымалі бацькі 404 немаўлят.*

За студзень—чэрвень 2004 года аформлена 217 шлюбаў, а за гэты ж час летась іх было 254.

Калі ў першым паўгоддзі 2003 года смяротнасць склала 599 выпадкаў, то сёлета за тыя ж шэсць месяцаў могілкі прынялі 644 памерлых.

Супрацоўнікі загса тлумачаць пагаршэнне статыстыкі высакосным годам, але, падумаўшы, нават афіцыйныя асобы вымушаны прызнаць, што дэмаграфія са знакам "мінус" перш за ўсё абумоўлена эканамічнымі варункамі, галоўныя сярод якіх — жыллёвыя праблемы, дэфіцыт цікавай працы і безграшоўе моладзі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Немцы дапамагаюць іванаўцам

*Новы дабрачынны праект у Брэсцкай вобласці пачаў нямецкі саюз "Дапамога для Іванава", створаны пяць гадоў таму былым шэфам паліцыі Франкфурта-на-Одэры Геншмарам Зігфрыдам.*

Як паведаміла БелаПАН начальнік упраўлення па працы і сацыяльнай абароне Іванаўскага раёна Жана Парфеявец, гэтая праграма, разлічаная на некалькі гадоў, мае на мэце падтрымаць састарэлых людзей беларускага рэгіёна. Першым яе этапам будзе дапамога ў рамонце тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, дзе плануецца адкрыць клуб для састарэлых людзей. Машыны з будматэрыяламі, па папярэдняй дамоўленасці, павінны прыбыць з Германіі ў Іванава ўжо восенню гэтага года.

Новы праект быў пачаты пасля таго, як вясной нямецкае грамадскае фарміраванне завяршыла дапамогу радзільнаму аддзяленню, у якім праводзілася рэканструкцыя. Саюз "Дапамога для Іванава" падарыў аддзяленню гінекалагічныя крэслы, медыцынскі інструментарый, перавязачныя і іншыя матэрыялы, сантэхніку, гіпсакардон для рамонту. Паклапаціліся нямецкія сябры і пра камфорт урачоў — усё ў іх кабінетах, ад мэблі да кававарак, прывезена з Германіі.

"Акрамя таго, дабрачынная арганізацыя ўжо пяць гадоў шэфствуе над 2-й іванаўскай школай. З іх дапамогай зроблена прыбудова да вучэбнага будынка, нямецкія сябры падарылі 16 камп'ютэраў, мэблю ў настаўніцкую, робяць дзецям падарункі да святаў. А яшчэ афармілі музычную залу ў адным з дзіцячых садкоў райцэнтра", — расказала Ж.Парфеявец.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# «Лена, а я ўсё роўна хачу свой дом...»

Яшчэ ніколі дарога з Гродна ў родны Столінскі раён не здавалася такой доўгай, як на гэты раз. Іван Васільевіч Дзямко здаў чарговую экзаменацыйную сесію ў сельскагаспадарчым інстытуце, дзе вучыўся на агранома, і вяртаўся дадому. Хоць і здаў усе экзамены ды залікі, настрой быў дрэнны. Усяго год мінуў, як выбухнуў смяротнай атрутай Чарнобыль, не абмінуўшы і яго родныя мясціны. А ў іх з жонкай Аленай Іванаўнай падрастае пяцёра дзетак... "Можа, і праўда зрабіць так, як раіць аднакурснік: забраць сям'ю ды пераехаць да яго на Дзятлаўшчыну? Там усё ж радыяцыя меншая", — не раз думаў за доўгую дарогу.

Алена Іванаўна была згодна на пераезд. Тым больш што ехалі не на пустое месца, а дакладна ведалі, што ў адным з дзятлаўскіх калгасаў патрэбен быў аграном. Алене Іванаўне, бухгалтару, таксама была работа па спецыяльнасці. І жыллё калгас даваў.

Прадалі яны дом, забралі дзетак, пажыткі і пераехалі ў вёску Хвінявічы Дзятлаўскага раёна. Пачалі абжываць новыя мясціны. Працавалася няпроста, бо чалавек, які тады ўзначальваў гаспадарку, быў жорсткі і несправядлівы. Людзі ў калгасе доўга не затрымліваліся. Менавіта таму тут пастаянна былі вакантныя пасады, і жыллё.

Праз сем гадоў Іван Васільевіч Дзямко таксама вымушаны быў звольніцца з работы. Следам за ім старшыня прагнаў і жонку. Яна пайшла на ферму даяркай, а ён — у лясніцтва.

Падрасталі дзеці, і Дзямко надумалі будаваць свой дом. Толькі залілі падмурак, як Івана Васільевіча зваліў інфаркт. Ляжаў у рэанімацыі, потым перавялі ў тэрапеўтычнае аддзяленне.

— Аднойчы я прыехала яго праведаць, а ён слабы, нямоглы са слязамі ў голасе кажа: "Лена, а я ўсё роўна хачу свой дом", — апавядае Алена Іванаўна.

— Пярэчыць не магла, узялася за справу сама. Людзей, канешне, наймала. Прыйшлося дошак напілаваць, дык старшыня на пілараму калгасную не пусціў. Злы быў. Павезла ў іншую гаспадарку за многія кіламетры.

Дом яны ўсё ж пабудавалі. Вялікі, прыгожы, на ціхай маляўнічай вуліцы. Колькі сіл і здароўя паклалі — толькі ім адным ды Богу вядома, бо Іван Васільевіч атрымаў другую групу інваліднасці. Здароўе мае незайздроснае, але працавітыя рукі і дапытлівы розум шукаюць сабе прымянення. Вялізную цяпліцу збудавалі яны з Аленай Іванаўнай. Дзве тысячы каліў агуркоў вырошчваюць у ёй. Каб вы толькі бачылі, якая гэта цяпліца! Усё тут робіцца з гаспадарскай акуратнасцю, з веданнем справы. Яшчэ ў першай палове сакавіка яны навазілі з мясцовага возера зямлі і на кожнае вядро яе дабавілі па літровым слоіку драўлянага попелу. Такую сумесь Алена Іванаўна расфасавала ў дзве тысячы невялічкіх баначак і ў кожную ўкінула зярнятка. Усё гэта змясцілі ў расадніцу — спецыяльную пабудову, якая абаграваецца печчу. Там, у цяпле ды святле, гурочкі раслі цэлы месяц. А як дасягнулі амаль паўметровага росту, былі высаджаны ў цяпліцу — вялізную, прасторную. Кожнае каліўца падвязана. Радок ад радка знаходзіцца праз сорак сантыметраў. Потым 80 сантыметраў — тэхнічны праход, каб, як надыдзе час, было свабодна збіраць ураджай, праводзіць падкормку. Праўда, Іван Васільевіч дае мала мінеральных угнаенняў. Асноўнай падкормкай з'яўляецца конскі гной. Ён і цяпло ў глебе добра ўтрымлівае.

Для паліўкі гуркоў, аж пакуль яны не стануць пладаносіць, выкарыстоўваецца цёплая вада: падвешаны трохтонны бак яе абаграваецца сонцам.

Ужо ў першай палове мая Дзямко са сваёй прадукцыяй выязджаюць на рынак. Цана ў іх заўсёды меншая, чым у перакупшчыкаў, якія бяруць гуркі ў іншых мясцінах і гандлююць імі на тым жа рынку.

Іван Васільевіч і Алена Іванаўна ездзяць гандляваць аж да канца верасня. Гуркі растуць да таго часу, пакуль вецер плёнку на цяпліцы не парве. У мінулым годзе, калі былі больш цёплыя вясна і лета, яны здавалі сваю прадукцыю і ў сталовую, і ў санаторый "Радон". А колькі дома людзі купляюць! Мясцовыя жыхары ведаюць, што гуркі ў Дзямко заўсёды свежыя, прыгожыя, без хімікатаў і вельмі смачныя. Гэта змаглі ацаніць і ў Дзятлаве, і ў Лідзе, і ў пасёлку Бярозаўка, куды яны вазілі сваю прадукцыю.

Акрамя цяпліцы, у Івана Васільевіча і Алены Іванаўны безліч розных іншых клопатаў. Яны насенавалі сена, бо будуць купляць карову. Тая, што была, захварэла, і яе прыйшлося здаць. Трымаюць свіней. Толькі рознай хатняй птушкі ажно 60 штук!

— У нас цяпер добры і спагадлівы старшыня калгаса, — кажа Алена Іванаўна. — Калі што папросіш — не адмовіць. І людзі да яго добра ставяцца. Я, хоць ужо і на пенсіі, па яго просьбе даяркай працавала. І цяпер пайшла б, але надта шмат работы дома. Вось закончыцца гурочны сезон, пайду.

Выраслі, сталі самастойнымі людзьмі тры сыны і дзве дачкі Васіля Іванавіча і Алены Іванаўны Дзямко. Усе набылі спецыяльнасць. Толькі адзін сын, які жыве ў Расіі, мае дзяржаўную кватэру, а так усім бацькі дапамаглі пабудаваць уласныя дамы.

Нягледзячы на бясконцую працу, пастаянныя клопаты, яны выглядаюць маладзейшымі за сваіх равеснікаў. Жыццё іх выпрабоўвала на розны лад, а яны выстаялі. Прадалі ў Столінскім раёне дом, і грошы паклалі на ашчадную кніжку да тых, што ўжо там ляжалі: а як жа, пяцёра дзетак падрастае. Іх вучыць трэба, у жыццё выпраўляць. Ды грошыкі тыя за адну ноч невядома дзе дзеліся. Як і ва ўсіх... А яны зноў нажылі. Маюць уласную легкавую і грузавую аўтамашыны.

Хвароба цяжкая навалілася на Івана Васільевіча, а ён ад яе работай лечыцца, клопатамі аб дзецях ды ўнуках. Праўда, дзеці бацькоў не забываюць, любяць іх, паважаюць, у працы стараюцца дапамагчы.

...Алена Іванаўна праводзіла мяне да аўтобуса, калі сонца ўжо хілілася да захаду. Ведаю, што рупілі ёй дома розныя справы, але пакінула іх на некалькі хвілін, каб прайсці па сваёй светлай вуліцы, здалёк зірнуць на вялікі цагляны дом, на цяпліцу, на машыну ля плота. Я міжволі злавіла погляд жанчыны і шчыра парадавалася яе нялёгкаму шчасцю. Падумалася, што такіх людзей, як мілыя, цудоўныя Дзямко, не кожны дзень сустрэнеш.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

*Іван Васільевіч з дочкамі Нінай і Алай.*

## Марцін Хекер — новы пасол ФРГ у Беларусі

*27 ліпеня ён уручыў даверчыя граматы А.Лукашэнку*

Пасол зазначыў, што Беларусь з'яўляецца неад'емнай часткай Еўропы. Кіраўнік германскай дыпламатычнай місіі запэўніў, што будзе імкнуцца развіваць адносіны дзвюх краін у агульнаеўрапейскім кантэксце.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Ад удару маланкі ў Мінску загінуў малады чалавек

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, малады чалавек загінуў у 18.20 на беразе Цнянскага вадасховішча на ўскраіне сталіцы падчас навальніцы ад удару маланкі. Яшчэ адзін мінчанін, 1986 года нараджэння, з тэрмічнымі апёкамі дастаўлены ў бальніцу.

Нагадаем, што ў выніку лівня, што абрынуўся на Мінск у нядзелю, 25 ліпеня, загінуў 26-гадовы прыватны прадпрымальнік. Ён спрабаваў прадухіліць падтапленне падвала жылога дома па вуліцы Кірава.

У той жа дзень у Полацкім раёне ад удару маланкі падчас навальніцы загінулі тры жыхары Наваполацка. Ахвярамі стыхіі сталі двое малых дзяцей — дзяўчынка 2000 года нараджэння, хлопчык 2003 года нараджэння, а таксама іх 34-гадовы бацька. 24-гадовая маці і жонка загінулых з апёкамі змешчана ў бальніцу.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Нашы людзі ў Каліфорніі

Днямі група актывістаў яўрэйскага маладзёжнага клуба "Маладыя сэрцы" з Баранавічаў адправілася ў ЗША па запрашэнні абшчыны горада Левермор (штат Каліфорнія).

Паездка фінансуецца запрашаючым бокам і праходзіць у рамках праграмы "Рука да рукі", якая аб'ядноўвае яўрэяў усяго свету. Члены клуба "Маладыя сэрцы" наведаюць сінагогу, пазнаёмяцца з прадстаўнікамі мясцовай яўрэйскай абшчыны. Жыць яны будуць у сем'ях прымаючага боку, спадзеючыся такім чынам лепш даведацца пра мясцовыя звычаі і культуру. Паездка працягнецца адзін месяц.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**

## Прытулак для ахвяр трафіку

29 ліпеня ў Мінску адбудзецца адкрыццё прытулку для ахвяр гандлю жанчынамі. Яго стварэнне — частка праекта Еўрапейскага Саюза і Праграмы развіцця ААН "Барацьба з гандлем жанчынамі ў Рэспубліцы Беларусь".

Асноўная мэта згаданага праекта — аказанне своечасовай прафесійнай сацыяльнай, псіхалагічнай, рэабілітацыйнай і юрыдычнай дапамогі ахвярам гандлю жанчынамі і прадастаўленне часовага жылля.

Дзейнасць прытулку для ахвяр сексуальнага нявольніцтва будзе фінансавацца Еўрапейскай камісіяй.

Паводле ацэнкі экспертаў, толькі ў Беларусі ценявы абарот ад гандлю людзьмі штогод складае да 15 млн. долараў ЗША. Дзяўчат для продажу вывозяць практычна з усіх беларускіх гарадоў.

**Вольга АСПЕНКА.**

## Стаць лідэрам ніколі не рана!

Праект Праграмы развіцця ААН "Садзейнічанне пашырэнню грамадскага ўплыву жанчын у Беларусі" распачаў новую адукацыйную праграму — 10-дзённую летнюю школу для дзяўчат-лідэраў "Быць лідэрам — заўсёды ў пару!".

Мэта летняй школы — садзейнічаць станаўленню будучага пакалення жанчын-лідэраў у грамадска-палітычнай сферы. Выкладчыкі і арганізатары летняй школы ставяць перад сабой задачы стымуляваць развіццё ў дзяўчат-лідэраў лідэрскіх якасцяў, актыўнай жыццёвай пазіцыі і грамадзянскай адказнасці. Удзельніцы летняй школы атрымаюць веды, што дазволяць пераадолець гендэрную дыскрымінацыю.

Да ўдзелу ў летняй школе запрошаны дзяўчаты-лідэры 18-25 гадоў.

**Вольга АСПЕНКА.**

МЫСЛИ ВСЛУХ

# Взбитое масло

Традиционно смысл жизни мы видим в детях. Лишенные собственных перспектив, раздавленные государственной машиной, не способные к сносному существованию за долгие годы трудовой карьеры, мы надеемся, что хоть у будущего поколения откроются горизонты. Поэтому каждая интеллигентная семья вкладывает в ребенка все, что у нее есть.

Понимая, насколько важно в современную эпоху качественное образование, многие родители тратят заработанные деньги прежде всего на учебу детей — на хорошие гимназии, на серьезных репетиторов, на получение образования в престижных вузах.

Школьник годами готовится к поступлению в лучший университет — недосыпает, сидит над учебниками, мотается по преподавателям, не жалея родительских денег на такси, только бы успеть на занятия. Вместе с ним все тяготы переживают близкие — мамы и папы, бабушки и дедушки. Будущий абитуриент становится центром жизнедеятельности всей родни.

Преодолев мытарства гимназической учебы, репетиторской подготовки, вступительных экзаменов и нескольких лет студенческого познания, тысячи белорусских семей тем не менее оказались у разбитого корыта. Один из лучших вузов страны — Европейский гуманитарный университет — практически закрыт. Ему отказано в аренде помещений. Несмотря на лицензию, полученную университетом в мае этого года, учебное заведение не сможет принять студентов — их просто негде учить. Даже если найдутся благожелатели, готовые предоставить площади в аренду, они не смогут этого сделать — говорят, есть негласное указание, запрещающее сдавать помещения для ЕГУ.

Что чувствуют сегодня студенты университета и их родители? Годы труда пошли насмарку. Деньги, вложенные в учебу, обесценены. То качественное европейское образование, ради которого было положено столько сил, оказалось недосягаемым. Никакой Институт права не может тягаться с Европейским гуманитарным университетом в уровне подготовки. Именно туда предложили переводиться студентам-правоведам из ЕГУ.

Почему, предлагая перевод в другой вуз — Белорусский государственный университет, студентов вынуждают идти на курс ниже или сдавать кучу экзаменов, платя за это немалые деньги? Ясно, не у всех есть деньги. Таким образом молодежь лишают права на качественное образование. Ни в одном вузе, кроме Иняза, нет такой языковой подготовки, как в ЕГУ. Ни в одном университете нет такого количества поездок и стажировок за границу, как в ЕГУ. Ни в одном учебном заведении нет такого набора предметов, ориентированных на современное европейское мышление, как в ЕГУ. Именно за право получения такого образования родители платили по сто двадцать долларов в месяц, создавая трамплин в будущее для своих детей.

Теперь этот трамплин выбивается из-под ног у лучших студентов страны. Не нужны стране талантливые специалисты, творческие личности и европейски мыслящие граждане. Слишком опасны такие кадры для государственной машины, не перевариваются такие люди в чреве Левиафана. Всех надо выравнять, построить в одну шеренгу, напитать одними идеологическими "измами", превратить в зомби, чтобы никто не высовывался и не посмел махать саблей, как в незабываемой "Мухе-Цокотухе".

Но не только эти далеко идущие цели преследуются властью. Напуганная негативным отношением интеллигенции, она пытается приструнить элиту накануне планируемых антиконституционных действий по продлению президентских полномочий руководителя страны. Студенты ЕГУ и их родители стали очередными жертвами политики по возврату страны в прошлое — с одной государственной идеологией, с одним...

Что ж, для пострадавшей стороны наступает момент истины. Если пойдет на уступки, согласится с роспуском университета, предложенными условиями перевода студентов в другие вузы, то, значит, того она и заслуживает. Если студенты и их родители поднимут головы, заявят в полный голос о своих правах, возьмутся за руки и начнут действовать, то не только добьются намеченных целей, но и услышат одобрительные аплодисменты просвещенной публики.

В этом деле есть с кого брать пример — с педколлектива и учащихся Белорусского гуманитарного лицея. Год назад нестандартное учебное заведение было закрыто также по политическим причинам. Слишком много вольнолюбивого духа витало в его коридорах и классах. Слишком умные выходили из его стен выпускники, занимавшие первые места в олимпиадах и поступавшие без труда на престижные факультеты. Зная о готовящемся закрытии лицея, учащиеся, родители и преподаватели год били во все колокола, стремясь привлечь общественное мнение к данной проблеме. Отчаянно барахтаясь, как та лягушка в молоке, они взбили масло — создали трамплин для учебы детей за границей. Международная общественность, узнав о закрытии белорусскоязычного лицея, предоставила лицеистам возможность получения бесплатного образования в западных университетах.

Целый год лицеисты, родители и преподаватели вели кампанию за свой лицей. Встречались на собраниях, писали чиновникам письма, ходили по инстанциям, подавали заявления в суд, стояли в пикетах, организовывали цепочки вдоль проспекта Скорины, встречались с послами и общались с журналистами. Мамы и бабушки, не занятые бизнесом и ответственными постами, запустили общенациональную пиар-кампанию, борясь не только за интересы своих чад, но и спасая честь страны.

По проторенной дороге Белорусского лицея сегодня может пойти и Европейский гуманитарный университет. Мамы и бабушки студентов опального университета, также не рискуя потерять бизнесы и должности, могут принять эстафету, защитить интересы детей и открыть для них новые горизонты. Главное — действовать. До начала очередного семестра есть еще время. В эпоху глобальных изменений и европейской интеграции инициатива, задушенная внутри страны, может принести неожиданные плоды извне.

**Людмила ГРЯЗНОВА,**
**заместитель председателя Объединенной гражданской партии.**

## З Беларусі ў Францыю на... веласіпедзе

З Брэсцкай крэпасці стартавала веласіпедная экспедыцыя "Эстафета міру і дружбы", якая пройдзе праз нямецкі Равенсбург-Вайнгартэн і французскі Брэст.

Восем удзельнікаў велапрабегу прыбудуць на Варшаўскі мост, адкуль на мікрааўтобусе даедуць да горада-пабрацІма Брэста — Равенсбурга-Вайнгартэна, і толькі адтуль пачнецца падарожжа на веласіпедах.

Як расказаў БелаПАН кіраўнік гэтага праекта, загадчык кафедры Брэсцкага тэхнічнага універсітэта **Анатоль ГЛАДЫШЧУК**, у нямецкім горадзе брэстаўчане плануюць быць ужо заўтра.

*"Мы маем намер прайсці 1800 км ад Равенсбурга-Вайнгартэна да французскага Брэста і назад за 21 дзень. У сярэднім будзем пераадольваць 100 км штодзённа"*, — паабяцаў А.Гладышчук.

Дарэчы, начаваць веласіпедысты будуць у палатках, гатаваць абеды — на паходнай печцы. Гэта часткова звязана з фінансавымі цяжкасцямі, паколькі, нягледзячы на дапамогу шэрагу прадпрыемстваў і нават французскага пасольства, большая частка расходаў аплачваецца самімі ўдзельнікамі прабегу.

У Францыі беларусы сустрэнуцца з **Клодам ЛЯТУШАМ**, які вясной гэтага года на веласіпедзе даставіў у горад над Бугам ліст ад мэра французскага Брэста.

21 жніўня велапрабег фінішуе ў Равенсбургу-Вайнгартэне, дзе яго ўдзельнікаў будзе сустракаць обер-бургамістр Герд Гебер. Экспедыцыя вернецца ў Брэст 23 жніўня.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Ртуць на агародзе

Каля аднаго кілаграма ртуці сабралі ратавальнікі з прысядзібнага ўчастка 48-гадовай жанчыны ў пасёлку Яловікі, які размешчаны непадалёк ад Бабруйска

Раніцай 27 ліпеня жанчына звярнулася ў службу "01" і паведаміла аб тым, што на яе агародзе разліта вадкасць, знешне падобная да ртуці. Да яе дома было накіравана падраздзяленне МНС.

Ратавальнікі адразу ж вызначылі, што на прысядзібным участку сапраўды разлітая ртуць. Плошча, на якой былі рассыпаныя серабрыстыя шарыкі, склала каля 9 квадратных метраў.

Агульная вага сабранай байцамі МНС ртуці склала крыху менш за 1 кілаграм. Акрамя збору вадкага металу, ратавальнікам прыйшлося зняць забруджаны ртуццю ўчастак зямлі плошчай у 9 квадратных метраў і глыбінёй у паўметра. Упакаваны ў папяровыя пакеты грунт быў вывезены за межы горада і пахаваны.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Мелодыя памяці для кампазітара

*Памяць кампазітара Анатоля Багатырова будзе ўвекавечана заснаваннем стыпендыі яго імя, устаноўкай помніка і мемарыяльнай дошкі.*

Адпаведную прапанову Міністэрства культуры падтрымаў урад Беларусі.

У 2005 годзе на месцы пахавання А.Багатырова на Усходніх могілках у Мінску будзе ўстаноўлены помнік, а на доме № 22 па праспекце Ф.Скарыны, дзе жыў кампазітар, — мемарыяльная дошка. Фінансаванне работ па праектаванні і стварэнні помніка будзе ажыццяўляцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту; устаноўка пастамента і мемарыяльнай дошкі, а таксама добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі — за кошт сродкаў гарадскога бюджэту.

Акрамя таго, пастановай урада з 1 студзеня 2005 года ўстаноўлена стыпендыя імя А.Багатырова для студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Віцебскаму аблвыканкаму рэкамендавана назваць у 2005 годзе адну з вуліц Віцебска, дзе нарадзіўся Багатыроў, яго імем.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Эрас Рамазоці згуляе ў Мінску ў футбол

На сталічным стадыёне "Дынама" 12 верасня адбудзецца дабрачынны футбольны матч паміж камандамі зорак італьянскай і беларускай эстрады. Сярод гасцей будзе знакаміты спявак **Эрас Рамазоці**. Пасля гульні адбудзецца канцэрт, які наладзяць ігракі абедзвюх каманд.

Прыбытак ад продажу білетаў пойдзе на аказанне дапамогі беларускім дзецям-сіротам і ахвярам чарнобыльскай аварыі. Грошы перададуць аднаму з беларускіх дзіцячых дамоў.

У складзе італьянскіх гасцей, акрамя артыстаў, прыедуць ветэраны прафесійнага футбола, якія гулялі ў складзе зборнай Італіі.

Нашу краіну прэзентуе каманда артыстаў беларускай эстрады "Арт-Старс" на чале з нязменным капітанам **Альбертам Скараходам**. Таксама на поле выйдуць вядомыя выканаўцы **Аляксей Хлястоў**, **Сяргей Мінскі**, **Валянцін Дайнека**, а таксама гіравік-рэкардсмен **Вячаслаў Харанека**.

**Міла КОЛАСАВА.**

## Асцярожна: змеі!

У Пінскім раёне ад укусаў змей пацярпелі два чалавекі. У рэанімацыю Пінскай гарадской бальніцы дастаўлена 8-гадовая дзяўчынка з вёскі Малатковічы. Гадзюка ўкусіла яе за пятку, калі яна гуляла каля дома. Улічваючы ўзрост дзіцяці, яд падзейнічаў вельмі хутка. Таму ў бальніцу пацярпелую даставілі ў цяжкім стане.

Трыма днямі пазней з укусам гадзюкі ў Пінскую гарадскую бальніцу трапіла састарэлая жыхарка гарадскога пасёлка Лагішын. Гадзюка ўкусіла жанчыну за палец рукі, калі тая збірала ягады ў лесе.

Зараз стан абедзвюх пацярпелых урачы характарызуюць як здавальняючы. У найбліжэйшы час іх выпішуць з бальніцы. Медыкі гавораць, што ўкус мясцовых гадзюк рэдка прыводзіць да смяротнага зыходу. Такое адбываецца толькі пры збегу многіх неспрыяльных абставін, у тым ліку пры наяўнасці некаторых хранічных захворванняў. Аднак калі своечасова аказаць медыцынскую дапамогу, папраўка гарантавана.

Паводле слоў ветэрынараў, у ліпені—жніўні гадзюкі рыхтуюцца да спячкі, у такі перыяд яны агрэсіўныя. Нягледзячы на гэта, змеі рэдка нападаюць на людзей без прычыны. Звычайна яны кусаюць, калі адчуваюць небяспеку для сябе ці патомства.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

## Беларусы рабавалі нямецкія банкі

Спецпадраздзяленню паліцыі Гановера на днях удалося затрымаць трох узброеных рабаўнікоў, якія здзейснілі серыю банкаўскіх рабаўніцтваў. Сярод іх — адзін немец, ураджэнец Казахстана, і двое грамадзян Беларусі. Аб гэтым паведаміла пасольства ФРГ у Рэспубліцы Беларусь.

Паводле інфармацыі дыппрадстаўніцтва Германіі, ёсць важкія падставы меркаваць, што з пачатку гэтага года затрыманыя здзейснілі некалькі нападаў з мэтай крадзяжу ў Германіі і выкралі пры гэтым значныя грашовыя сумы. На тэрыторыю Германіі яны ўязджалі з Беларусі спецыяльна для здзяйснення грабяжоў.

Затрыманым пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да 15 гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Виктор Янукович: Украина недостаточно развита для вступления в НАТО

Об этом заявил премьер-министр страны Виктор Янукович на собрании офицеров Вооруженных сил. “Реальный уровень развития экономики страны, гражданского общества и выполнения критериев Североатлантического альянса пока что не позволяет ни Украине, ни НАТО говорить о реальной дате вступления”, — сказал Янукович. В то же время, по его словам, Киев продолжит углублять сотрудничество с Североатлантическим альянсом в совместных проектах, в том числе по утилизации боеприпасов, легкого вооружения и стрелкового оружия.

“К новым направлениям сотрудничества с НАТО можно отнести участие Украины в реализации Пражских инициатив, а также присоединение нашего государства к операции ”Активные усилия" в Средиземном море с целью борьбы с терроризмом и незаконной перевозкой оружия и наркотиков", — отметил украинский премьер.

## Нидерланды подали в суд на «Врачей без границ»

Правительство Нидерландов подало иск против швейцарского отделения благотворительной организации “Врачи без границ” с требованием вернуть сумму в 1 миллион евро, уплаченную за освобождение Арьяна Эркеля из плена на Северном Кавказе. Иск подан в один из судов Женевы, поскольку Эркель работал именно в швейцарском отделении организации. По словам представителя Министерства иностранных дел Нидерландов, единственная цель процесса — вернуть выплаченные деньги.

Напомним, Нидерланды впервые признали, что выделили деньги для уплаты выкупа похитителям Эркеля в мае 2004 года. До этого момента и “Врачи без границ”, и голландские власти замалчивали тот факт, что пленник был освобожден за деньги.

Напомним, гражданин Нидерландов Эркель был похищен 12 августа 2002 года на окраине столицы Дагестана Махачкалы. Предположительно его захватили чеченские боевики, с которыми впоследствии были начаты переговоры. Всего сотрудник благотворительной организации провел в плену около 20 месяцев. Подробности переговоров не раскрывались, однако известно, что посредниками на них выступали ветераны российских правоохранительных органов, а заложник был освобожден после вмешательства голландского правительства 11 апреля 2004 года.

## Коста-риканский полицейский захватил в заложники чилийских дипломатов

Как рассказал посол Чили в Коста-Рике Гильермо Юнге, во время захвата заложников были слышны выстрелы. Представители полиции предполагают, что полицейский мог случайно ранить себя. По словам министра безопасности Коста-Рики Рохелио Рамоса, имя захватившего заложников полицейского — Орландо Хименес. В течение нескольких лет он входил в число охранников чилийского посольства.

Как сообщает Reuters со ссылкой на министра иностранных дел Чили, в заложниках оказались девять человек: двое дипломатов и семеро сотрудников посольства. 54-летний полицейский не выдвинул никаких требований. Он только попросил доставить к зданию его жену. Мотивы захвата остаются неизвестными. Рамос отметил только, что, возможно, эти события связаны с тем, что Хименес недавно получил перевод на другое место службы.

## Колумбийские марксисты похитили католического епископа

В Колумбии захвачен Мисаэль Вакка Рамирес, католический епископ города Йопаль, расположенного на северо-востоке от столицы государства, Боготы. Как сообщили прессе представители церкви, его взяли в заложники партизаны Армии Национального освобождения (АНО). Предположительно, они хотят передать с епископом письмо к властям Колумбии. Президент страны Альваро Урибе сообщил, что уже начата операция по освобождению священника. “Мы не можем простить партизанам это похищение. Я надеюсь, что епископ окажется на свободе в ближайшее время”, — заявил он журналистам. Освободить Мисаэля Рамиреса призывает партизан и папа Иоанн Павел II.

## Адвокаты Майкла Джексона взмолились об отсрочке

Адвокаты Майкла Джексона, которому грозит уголовное расследование за совершение развратных действий в отношении несовершеннолетнего, требуют четырехмесячной отсрочки слушаний. По их утверждению, дело Джексона является “сложным и не совсем обычным”. Если ходатайство защитников будет удовлетворено, то начало суда автоматически отложится до начала 2005 года.

Свою просьбу адвокаты объясняют тем, что на изучение всех материалов дела уйдет гораздо больше времени, чем планировалось вначале. Помимо этого защита считает, что суд сознательно завышает расходы на делопроизводство. “Расходы средств судебными приставами являются беспрецедентными и даже экстравагантными”, — заявил представитель защиты Стик Кокран. У адвокатов создается впечатление, подчеркнул он, что суд сознательно “пытается унизить главную знаменитость страны”. “В данном случае находится под угрозой сама жизнь Джексона”, — считает Кокран.

ЛЮБОПЫТНО

## Банда тучных налетчиц терроризирует магазины в ЮАР

В последние два месяца в городе Дурбан в ЮАР участились налеты вооруженной банды полных женщин на местные магазины одежды и косметики. Обычно одна из участниц преступной группы, в которую входят от четырех до десяти упитанных злоумышленниц, отвлекает охранника магазина, в то время как остальные налетчицы наполняют большие сумки товарами с полок. После этого дородные преступницы стремительно покидают супермаркет и скрываются на ожидающем у входа автомобиле.

При этом, если сотрудники магазинов пытаются пресечь кражу, женщины угрожают им холодным оружием. Зафиксированы случаи преследований и угроз в адрес продавцов во время обеденного перерыва или уже после окончания рабочего дня. Но, как подчеркнул представитель правоохранительных органов, когда появляется группа тучных женщин, они уже выглядят достаточно устрашающе. С января произошло 34 подобных ограбления. Несколько участниц банды уже арестованы и находятся под следствием.

## Кастро ответил Бушу: на Кубе секса нет

Фидель Кастро гневно отверг выдвинутые против него Джорджем Бушем обвинения в поощрении секс-туризма на Кубе для привлечения американской валюты. Выступая на митинге, посвященном Дню Революции — 51-й годовщине штурм казарм Монкада, кубинский лидер отметил, что Белый дом считает истиной в отношении Кубы “то, что придет президенту в голову”.

17 июля Джордж Буш, выступая на конференции, посвященной торговле людьми, обвинил Кубу в нацеленности на секс-туризм, являющийся “жизненно важным источников твердой валюты, которая будет поддерживать это коррумпированное правительство на плаву”. “Режим в Гаване, один из самых сильных в мире нарушителей прав человека, множит свои преступления. Диктатор приветствует секс-туризм”, — сказал тогда американский президент.

По словам Буша, наплыв американских и канадских туристов на остров породил резкий всплеск детской проституции. Также президент США сказал, что Кастро “хвастался” кубинской секс-индустрией, процитировав Фиделя: “На Кубе самые чистые и образованные проститутки в мире”.

Комментируя очередные обвинения из Вашингтона, Кастро сказал: “В мире существует много людей, которым мало известно о кубинской революции, и они могут пасть жертвой лжи, распространяемой Соединенными Штатами”.

## Фотовзгляд

*Молодежное движение партии “Яблоко” организовало акцию протеста у здания ФСБ в Москве.*

*В президентских выборах в Афганистане власти призывают участвовать и мужчин, и женщин на равных условиях.*

*От жары в парке развлечений в Ёнгине в Южной Корее страдают и люди, и белые медведи.*

**Фото Би-Би-Си.**

ШТО ТАМ, У ГЕРМАНІІ

# Наступіць на горла ўласнай песні

*“Чаму немцы вымушаны наступіць на горла ўласнай песні?” — так называліся артыкулы, змешчаныя ў нашай газеце 3—5 сакавіка гэтага года. Яны выклікалі рэзананс і новыя пытанні.*

*Нагадаю, у іх ішла размова аб тым, што нямецкая эканоміка лічылася эталонам. Яна вырасла не толькі ў самую буйную гаспадарку Еўропы, але і стала трэцяй эканамічнай сілай у свеце. Асабліва яна падкупляла сваёй сацыяльнай накіраванасцю. Тут беспрацоўны жыве не горш за рабочых у некаторых краінах. Але ў апошнія гады моцна праявіліся негатыўныя працэсы.*

*Цікава атрымалася. Немцы марылі стварыць дзяржаву, якая ўзяла б на сябе клопат пра людзей. І яны ажыццявілі сваю мару, пабудавалі краіну “багатых пенсіянераў”. Але сацыяльныя даброты адбілі ў многіх ахвоту да творчай працы, рызыкі ў сферы бізнесу. Вось такі другі бок медаля прагрэсу.*

*Усё больш рабілася відавочным, што патрэбны перамены. Каб разварушыць грамадства, неабходна падрэзаць сацыяльныя даброты і за кошт гэтага зменшыць падаткі, стварыць лепшыя ўмовы для бізнесу. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што пры ўладзе знаходзяцца сацыял-дэмакраты, іхні лідэр Герхард Шродэр займае крэсла канцлера Германіі. А менавіта ж яны, сацыял-дэмакраты, самыя актыўныя барацьбіты за сацыяльныя заваёвы. Гэта канёк, стрыжань іхняй палітыкі. І вось цяпер па волі лёсу яны вымушаны наступіць, вобразна кажучы, на горла ўласнай песні.*

*У партыі разгарэлася вельмі вострая дыскусія. Нават быў скліка765 пазачарговы з’езд партыі. На ім лідэр Шродэр цвёрда заявіў: раз рэформы наспелі — іх варта пачынаць, як бы балюча ні білі яны па аўтарытэце партыі, бо няма нічога важней за прагрэс краіны. Пры гэтым ён прыгразіў, што, калі партыйцы не падтрымаюць курс на рэформы, ён пакіне сваю пасаду. І з’езд яго падтрымаў, у краіне з пачатку года пачаліся рэформы.*

*Вось гэта і выклікала найбольшую цікавасць чытачоў. Многія з іх кажуць: “Вось з каго трэба браць прыклад. А то ж у нас больш за дзесяць гадоў толькі гавораць пра рэформы”. Пры гэтым многія просяць расказаць, як жа ідуць яны ў Германіі? Такім чынам, пра іх.*

*Петэр Харц (злева) і канцлер Герхард Шродэр.*

## Закон Харца

Канешне, паўгода з хвосцікам — не тэрмін для грунтоўнага аналізу. І ўсё ж зрухі да лепшага відавочны. Канцэрн BMW павялічыў збыт машыны за першае паўгоддзе на 8,5 працэнта, у ім створана каля тысячы новых рабочых месцаў. Літаральна днямі з канвеера сышлі дзве новыя мадэлі легкавікоў, рыхтуецца трэцяя. Канцэрн Opel таксама нарошчвае выпуск машын і мае ўсе падставы для таго, каб сёлета давесці сваю долю на еўрапейскім рынку легкавых аўтамабіляў да 10,7 працэнта.

Расце германскі экспарт. Агульны аб’ём заказаў з-за мяжы на нямецкія машыны павялічыўся на 5 працэнтаў. Міжнародны валютны фонд хваліць нямецкія рэформы і паляпшае свой прагноз. Калі вясной яго спецыялісты гаварылі аб росце нямецкай эканомікі сёлета на 1,6 працэнта, дык цяпер яны прагназуюць 1,8 працэнта. Да гэтай лічбы схіляюцца і спецыялісты Германскага інстытута эканамічных даследаванняў. Праўда, другі ўплывовы Гамбургскі інстытут сусветнай эканомікі называе лічбу чакаемага росту 1,5 працэнта.

Вядома, гэта яшчэ нязначныя зрухі, але яны ўжо ёсць. Прычым гэтыя 1,5—1,8 працэнта рэальныя, сапраўдныя, а таму яны, бадай, мацнейшыя за 10 працэнтаў, надутых інфляцыяй. Каб поспех замацаваць і паскорыць, патрэбна паглыбіць рэформы. Спецыялісты Міжнароднага валютнага фонду раяць наладзіць больш напружаную працу, прасцей кажучы, падоўжыць працоўны тыдзень ды скараціць адпачынкі. Цяпер працягласць рабочага тыдня ў Германіі 38 гадзін, а ў некаторых галінах — 35 гадзін. У іншых еўрапейскіх краінах — 40—42 гадзіны. Кіраўнік Германскага інстытута эканамічных даследаванняў Клаус Цымерман у інтэрв’ю газеце “Більд” заявіў: “Каб адолець крызіс і захаваць рабочыя месцы, часам трэба працаваць і па 50 гадзін на тыдні”. Але і такая мяккая фармулёўка выклікала незадаволенасць і пярэчанні. Некаторыя вучоныя раяць не надта захапляцца ўкараненнем “бясплатнай дадатковай працы”. Прадстаўнік так званага Савета эканамічных мудрацоў, дакладней, групы экспертаў пры ўрадзе Германіі Петэр Бофінгер папярэджвае, што такі падыход можа нарадзіць дэфляцыйныя тэндэнцыі. Ён напамінае, што ў свой час на такі “кручок” клюнула Японія і да гэтага часу не можа пераадолець негатыўныя наступствы.

Пакуль палітыкі і вучоныя спрачаюцца аб тонкасцях розных механізмаў рэфармавання, просты люд усё гучней выступае супраць наступлення на сацыяльныя заваёвы. Асаблівую незадаволенасць выклікаў закон, які ў народзе называюць “законам Харца”, хоць гэта не адзін закон, а чатыры пакеты законаў па рэфармаванні эканомікі.

Петэр Харц — высокакласны менеджэр, карыстаецца ў краіне вялікім аўтарытэтам. Яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў ён абгрунтаваў новую канцэпцыю менеджмента, якая дазволіла рэзка ўзняць эфектыўнасць працы на адным буйнейшым нямецкім прадпрыемстве, прычым у вельмі неспрыяльны для яго перыяд. Таму канцлер краіны Герхард Шродэр прапанаваў яму ўзначаліць распрацоўку пакета рэформ. За час абмеркавання ва ўрадзе і парламенце добрая частка ідэй Харца аказалася за бортам заканадаўчых дакументаў. Тым не менш іх працягваюць называць імем кіраўніка групы распрацоўшчыкаў.

Дарэчы, гэта добрая традыцыя. Краіна павінна ведаць у твар ініцыятараў і распрацоўшчыкаў буйнейшых дзяржаўных актаў і ідэй. Такая практыка павышае адказнасць апошніх і моцна ўплывае на якасць лёсавызначальных рашэнняў. Бо кожнаму неабыякава, якім радком увойдзе ён у гісторыю. Больш таго, сам факт, што тваё імя будзе ўпісана ў яе, вымушае надзвычай скрупулёзна ўзвешваць усе “за” і “супраць”, каб тваім нашчадкам не было сорамна за цябе і сваё прозвішча, а каб яны ганарыліся ім.

Нягледзячы на вялікую незадаволенасць грамадзян рэформамі і тым, што сыплюцца кпіны на адрас спадара Харца, мяркую, што многія класныя спецыялісты ў душы зайздросцяць яму, што менавіта ён стаў бацькам рэформ, і пастараюцца ў будучым неяк вылучыцца сваімі ідэямі і стараннем, каб не ўпусціць у жыцці свой шанц і ўпісаць у гісторыю свой радок. Пазней, калі рэформы дадуць плён, крытыка сціхне і яго імя будзе вымаўляцца з гонарам. Шчаслівае тое грамадства, дзе гісторыя творыцца і пішацца не адной асобай, яе дэкрэтамі і прамовамі, а ідэямі і распрацоўкамі многіх лепшых яго сыноў.

Але вернемся да “закона Харца”, а дакладней, да яго чацвёртага пакета рэформ, у якім зафіксаваны новыя правілы гульні на рынку працы. З аднаго боку, яны вымушаюць чыноўнікаў больш увагі надаваць беспрацоўным, а з другога — прымушаюць апошніх хутчэй уладкоўвацца на працу. Так, беспрацоўныя з высокай кваліфікацыяй цяпер павінны згаджацца на працу менш кваліфікаваную і нават калі яна далёка ад дома. Калі ж яны запар некалькі разоў адмаўляюцца ад працоўнага месца, дык ім можа быць зменшана грашовая дапамога па беспрацоўі. А маладыя людзі да 25 гадоў у такой сітуацыі могуць наогул пазбавіцца той выплаты.

Канешне, такое не падабаецца. Але ж краіна не можа мірыцца з тым, што вялікая армія спецыялістаў пастаянна ўхіляецца ад працы толькі таму, што іх не задавальняюць рабочыя месцы, якія прапануюцца, і яны могуць жыць на дапамогу па беспрацоўі.

Каб атрымаць дапамогу па беспрацоўі, прыходзіцца запаўняць новыя анкеты, падрабязна паведамляць аб сваім матэрыяльным становішчы: аб укладах у банках, жыллі і аплаце камунальных паслуг... Ведамства па працы краіны ўжо павялічвае штат кансультантаў, якія будуць дапамагаць запаўняць анкеты. Адкрыта “гарачая лінія”, па якой ветлівым голасам вам адкажа на любое пытанне спецыяліст па анкеце.

Новаўвядзенне не спадабалася грамадзянам. Яны лічаць яго чарговым бюракратычным выкрутасам, які забірае шмат часу. Многія скардзяцца, што цяжка іх запаўняць. Маўляў, сёння рахунак у банку ёсць, а заўтра яго можа не стаць. Дык што пісаць у графе: ёсць ці няма? У палеміку з такімі ўступіў нават міністр працы Вольфганг Клемент. Ён цвёрда заявіў, што не разумее ажыятажу вакол анкет. Бюракратыі стала меней, а каб выдаваць дапамогу, дык варта ж ведаць каму.

Асабліва вострыя дыскусіі разгарэліся вакол скарачэння адпачынкаў і павелічэння працягласці рабочага тыдня. Наконт адпачынкаў. У Японіі іх працягласць 18 дзён, у большасці еўрапейскіх краін — 4 тыдні, у Германіі — шэсць тыдняў: 30 дзён самога адпачынку і 12 дзён розных свят. Вучоныя і палітыкі заяўляюць, што ва ўмовах крызісу гэта занадта многа і варта хутчэй развітацца са звычкай “працаваць толькі да трох гадзін дня”. У працаўнікоў іншае меркаванне. Востры канфлікт па гэтай праблеме ўспыхнуў на пачатку лета ў канцэрне па выпуску знакамітых “Мерседэсаў”. Аб ім у наступным артыкуле.

*(Працяг будзе.)*

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*«Народная воля» працягвае серыю публікацый пра Еўрапейскі Саюз. Пэўную цікавасць уяўляюць і нататкі сябраў падрыхтоўчага камітэта «Еўрапейскага руху ў Беларусі» прафесара **Пятра ШУПЛЯКА** і **Марыны АДАМОВІЧ**.*

# Еўрапейскі Саюз: учора, сёння, заўтра

## *Што трэба ведаць пра ЕС*

### 1. Каму належыць ідэя заснавання адзінай Еўропы?

Еўрапейскі кантынент на працягу стагоддзяў быў арэнай бясконцых войнаў паміж рознымі дзяржавамі ці кааліцыямі дзяржаў. У рэшце рэшт многія палітыкі, інтэлектуалы сталі ўсё больш праяўляць схільнасць да кардынальных перамен ва ўзаемаадносінах паміж дзяржавамі, якія б выключылі ці звялі да мінімуму магчымасць новых войнаў. Галоўная ідэя гэтых перамен заключалася ў аб’яднанні еўрапейскіх краін, зыходзячы з іх агульнай культурнай спадчыны. Ужо пасля Першай сусветнай вайны даволі шырока разгарнуўся так званы панеўрапейскі грамадскі рух, які ставіў мэтай адзінства еўрапейцаў. Гэтая ідэя набыла і дзяржаўнае гучанне. У верасні 1929 г., выступаючы на Асамблеі Лігі Нацый, міністр замежных спраў Францыі **А.Брыян** прапанаваў ідэю пан-Еўропы, г. зн. устанаўленне федэральных сувязяў паміж еўрапейскімі краінамі ў мэтах вырашэння праблем эканамічнага супрацоўніцтва. Больш таго, **А.Брыян** афіцыйна звярнуўся да 27 еўрапейскіх краін з прапановай стварэння еўрапейскага федэральнага саюза. Аднак французскі праект не быў падтрыманы Англіяй і Германіяй і застаўся нерэалізаваным. Час для еўрапейскага адзінства ў перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі яшчэ не прыспеў.

Другая сусветная вайна, яе вынікі і наступствы зрабілі ідэю аб’яднання Еўропы яшчэ больш актуальнай. Ужо ў верасні 1945 г., выступаючы ў Цюрыху, **Уінстан Чэрчыль** заклікаў да стварэння Злучаных Штатаў Еўропы, і трэба адзначыць, што ён быў не адзін у гэтым імкненні сярод знакамітых палітыкаў таго часу.

### 2. Чым было выклікана імкненне да аб’яднання?

Імкненне да інтэграцыі пасля Другой сусветнай вайны тлумачылася жаданнем вырашыць дзве важнейшыя для Еўропы праблемы. Першая была звязана з Германіяй. Як вядома, Германія з часоў Бісмарка і да Гітлера неаднаразова пагражала сваім суседзям і вяла супраць іх войны. Як мацнейшая дзяржава, размешчаная ў цэнтры Еўропы, яна была і заставалася пагрозай, асабліва для малых краін. Фарміраванне сістэмы ці арганізацыі еўрапейскіх дзяржаў, заснаванай на іх супрацоўніцтве, магло бы садзейнічаць эканамічнаму і палітычнаму развіццю Германіі не на базе агрэсіўнасці, а ва ўмовах узаемаразумення і агульных намаганняў для развіцця сацыяльна-эканамічнага і палітычнага прагрэсу. Нават Францыя, якая традыцыйна імкнулася да раздзелу Германіі, да яе абмежавання ў ваенна-палітычных і эканамічных адносінах, у 1945 г., у адрозненне ад 1919 г., імкнулася садзейнічаць аднаўленню Германіі ў межах еўрапейскай супольнасці.

З другога боку, прыхільнікі ідэі еўрапейскай інтэграцыі лічылі, што аб’яднанне Еўропы будзе садзейнічаць аднаўленню эканомікі ўсіх краін, яе дынамічнаму і стабільнаму развіццю, зробіць еўрапейцаў больш багатымі, а еўрапейскія краіны больш уплывовымі ў свеце.

### 3. Якія шляхі аб’яднання Еўропы былі прапанаваныя?

Першапачаткова былі прапанаваныя два шляхі аб’яднання. Частка прыхільнікаў інтэграцыі Еўропы выступала за стварэнне “Злучаных Штатаў Еўропы” — за аб’яднанне ўсіх еўрапейскіх дзяржаў у адзіную федэрацыю ці “звышдзяржаву”, кіруемую наднацыянальным “еўрапейскім” урадам. Іншыя ж не жадалі адмаўляцца ад нацыянальнага суверэнітэту і бачылі будучыню Еўропы ў цесным эканамічным і палітычным саюзе дзяржаў, якія б захавалі свае ўрады, органы ўлады і ўзброеныя сілы.

### 4. Якія краіны найперш падтрымалі ідэю адзінай Еўропы і чаму?

Зразумела, што не ўсе еўрапейскія краіны з аднолькавым энтузіязмам аднесліся да ідэі еўрапейскай інтэграцыі. Яе актыўна падтрымалі невялікія краіны-суседзі Германіі. Гэта ў першую чаргу Бельгія і Нідэрланды. Цвёрдым прыхільнікам аб’яднання Еўропы была Францыя, якая захоўвала надзеі на лідэрскую ролю на кантыненце.

Зусім іншыя погляды на праблему аб’яднання Еўропы мела Вялікабрытанія, асабліва ў 40—50-я гады. Не будучы кантынентальнай дзяржавай, яна заўсёды імкнулася ў сваёй еўрапейскай палітыцы выкарыстоўваць супярэчнасці еўрапейскіх дзяржаў, адыгрываючы ролю арбітра. Планы федэралізацыі Еўропы выклікалі ў Лондане пэўную занепакоенасць. Галоўным вектарам знешняй палітыкі Англіі пасля вайны быў саюз са Злучанымі Штатамі Амерыкі. Многія англійскія палітыкі лічылі, што гэты саюз можна будзе пры неабходнасці супрацьпаставіць аб’яднанай Еўропе. Стрымліваючую ролю адыгрывалі і адносіны Брытаніі з краінамі Садружнасці — былымі брытанскімі калоніямі.

Разам з тым трэба мець на ўвазе, што Вялікабрытанія не адмаўлялася ад супрацоўніцтва з еўрапейскімі краінамі. У вядомай тэорыі У.Чэрчыля аб трох сферах брытанскай знешняй палітыкі прысутнічаў і еўрапейскі напрамак, хаця ён і займаў трэцяе месца пасля амерыканскага і імперскага. Справа была ў тым, што гэта супрацоўніцтва не павінна было ні ў якім разе абмяжоўваць брытанскі суверэнітэт на карысць агульнаеўрапейскіх інтэрэсаў. Такім чынам, Брытанія была яшчэ не гатова да ўдзелу ў планах федэралізацыі Еўропы.

### 5. Калі і навошта быў створаны Савет Еўропы?

Першым крокам на шляху ваенна-палітычнай кансалідацыі заходнееўрапейскіх дзяржаў было падпісанне *ў сакавіку 1948 г.* Брусельскага дагавора, у выніку чаго фактычна стварыўся так званы **Заходні саюз.** Дагавор падпісалі Англія, Францыя, Бельгія, Нідэрланды і Люксембург. Галоўным у дагаворы быў абавязацельствы гэтых краін аб сумесных дзеяннях у выпадку ўзнікнення вайны ў Еўропе і ўцягвання ў яе адной з краін, падпісаўшых дагавор.

Крыху пазней, *у маі 1949 г.*, па ініцыятыве грамадскасці і многіх еўрапейскіх палітыкаў быў створаны **Савет Еўропы (СЕ)**. У яго склад увайшлі пяць дзяржаў, падпісаўшых Брусельскі дагавор, а таксама Данія, Італія, Ірландыя, Нарвегія і Швецыя. Пазней далучыліся таксама Аўстрыя, Грэцыя, Ісландыя, Турцыя, ФРГ. У рэшце рэшт, у склад Савета Еўропы ўвайшлі практычна ўсе еўрапейскія краіны, ў тым ліку і краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы пасля краху там камуністычных рэжымаў. Галоўная ўмова членства ў Савеце Еўропы — забеспячэнне ў краіне вяршэнства права і выкананне асноўных правоў чалавека. Гэта, у прынцыпе, і з’яўляецца сэнсам дзейнасці СЕ. У Статуце галоўная мэта дзейнасці СЕ вызначана як “дасягненне большага адзінства паміж яго членамі для абароны і ажыццяўлення ідэалаў і прынцыпаў, якія з’яўляюцца іх агульнай спадчынай, і садзейнічання іх эканамічнаму і сацыяльнаму прагрэсу”.

### 6. Якія галоўныя органы Савета Еўропы?

Галоўнымі органамі СЕ з’яўляюцца **Парламенцкая асамблея Савета Еўропы (ПАСЕ) і Камітэт міністраў.** ПАСЕ складаецца з прадстаўнікоў нацыянальных парламентаў у адпаведнасці з прадстаўніцтвам партый у кожным парламенце. У склад Камітэта міністраў уваходзяць міністры замежных спраў. ПАСЕ прымае рашэнне большасцю галасоў. Гэтыя рашэнні носяць характар рэкамендацый для Камітэта міністраў. Камітэт міністраў прымае рашэнні па палітычных пытаннях на аснове прынцыпу аднагалосся. Яго рашэнні з’яўляюцца рэкамендацыямі для нацыянальных урадаў. Сярод многіх дакументаў, прынятых СЕ, галоўнымі з’яўляюцца *Еўрапейская канвенцыя аб абароне правоў і асноўных свабод чалавека і Еўрапейская сацыяльная хартыя,* прынятая ў 1961 г. і карэнным чынам абноўленая ў 1996 г.

### 7. Ці з’яўляецца Савет Еўропы наддзяржаўным органам?

Савет Еўропы з’яўляецца арганізацыяй кансультатыўнага характару і не абмяжоўвае нацыянальных суверэнітэтаў. Ён не можа прымусова дабівацца рэалізацыі сваіх рашэнняў. Яны носяць у асноўным характар маральнага ўздзеяння. Аднак краіны-удзельніцы, як правіла, прытрымліваюцца гэтых рашэнняў. Тыя ж краіны, урады якіх парушаюць правы чалавека і свабоды, могуць быць выключаны са складу СЕ. Кіруючыя органы СЕ размяшчаюцца ў Страсбургу. Савет Еўропы да сённяшняга дня выконвае важную работу ў галіне аховы правоў чалавека.

### 8. Як вырашаліся праблемы ваеннай бяспекі ў Еўропе?

У самым пачатку 50-х гадоў у Еўропе актыўна абмяркоўвалася ідэя ваеннай інтэграцыі. У кастрычніку 1950 г. прэм’ер-міністр Францыі Р.Плевен выступіў з прапановай стварыць еўрапейскі Камітэт міністраў абароны, які б распачаў работу па фарміраванні еўрапейскай арміі. На нарадзе міністраў замежных спраў Англіі, Францыі і ЗША у Вашынгтоне ў верасні 1951 г. прапанова была падтрымана. Пры гэтым спецыяльна падкрэслівалася, што ў планаваную ваенную супольнасць мяркуецца ўключыць і ФРГ, а сама супольнасць будзе ўваходзіць у НАТО. *27 мая 1952 г.* міністры замежных спраў Бельгіі, Нідэрландаў, Італіі, Люксембурга, Францыі і ФРГ падпісалі ў Парыжы дагавор аб стварэнні **Еўрапейскай абарончай супольнасці (ЕАС).** ЕАС разглядалася як наднацыянальная ваенная арганізацыя. Аднак у жніўні 1954 года парламент Францыі не ратыфікаваў дагавор. Супраць выступілі як левыя (камуністы), якія былі супраць рэмілітарызацыі ФРГ, так і правыя (галісты), якія лічылі, што французская армія ў Супольнасці можа страціць нацыянальны характар, а французскімі салдатамі могуць камандаваць нямецкія афіцэры і генералы. У сувязі з гэтым праект стварэння ЕАС не быў рэалізаваны.

Тым не менш праблемы ваеннай інтэграцыі заставаліся прадметам абмеркавання, як і далучэнне да яе Італіі і ФРГ. Пасля правалу са стварэннем ЕАС было вырашана рэарганізаваць Заходні саюз і на яго базе стварыць Заходнееўрапейскі саюз (ЗЕС), які і быў афармлены *ў маі 1955 г.* ЗЕС прадстаўляў сабой ваенна-палітычны саюз сямі заходнееўрапейскіх дзяржаў: Англіі, Бельгіі, Нідэрландаў, Італіі, Люксембурга, Францыі і ФРГ. Такім чынам, у адрозненне ад Заходняга саюза, членамі новага аб’яднання былі таксама ФРГ і Італія — краіны, пераможаныя ў вайне. ФРГ атрымоўвала магчымасць стварыць сваю армію, якая павінна была стаць часткай узброеных сіл ЗЕС. Калі ў Брусельскім дагаворы гаварылася яшчэ аб неабходнасці супрацьстаяць магчымаму адраджэнню германскай агрэсіўнасці, то ў дагаворы аб ЗЕС аб гэтым не была нават упаміну. Затое было падкрэслена, што ЗЕС будзе працаваць ў цесным супрацоўніцтве з арганізацыяй Паўночна-Атлантычнага дагавора. Такім чынам, ЗЕС стаў як бы філіялам, ці ў нейкім сэнсе аўтаномнай арганізацыяй, НАТО ў Еўропе. Коратка асноўныя задачы ЗЕС можна сфармуляваць наступным чынам: абарончыя праблемы ў Еўропе і супрацоўніцтва з НАТО. Разам з тым патрэбна мець на ўвазе, што пасля падпісання Маастрыхцкага дагавора, які прадугледжвае і супрацоўніцтва ў ваенный галіне, ЗЕС страчвае сваё значэнне. Афіцыйна ён быў створаны на 50 гадоў, і тэрмін яго дзеяння заканчваецца ў 2005 годзе. Аднак ужо ў 1999 г. пры Еўрапейскім Саюзе быў створаны Савет па каардынацыі знешняй палітыкі і бяспекі, да якога фактычна перайшлі функцыі ЗЕС. Узначаліў новы орган былы генеральны сакратар НАТО Хаўер Салана.

### 9. Якімі былі першыя крокі да эканамічнай інтэграцыі?

У пачатку 50-х г. былі зроблены першыя крокі і ў напрамку эканамічнай інтэграцыі. *9 мая 1950 г.* міністр замежных спраў Францыі **Роберт Шуман** выступіў з прапановай стварыць **Еўрапейскае аб’яднанне вугалю і сталі (ЕАВС)**. Гэта прапанова стала вядомай у Еўропе як “план Шумана”. Мелася на ўвазе аб’яднанне вугальнай і металургічнай прамысловасці заходнееўрапейскіх краін і ў першую чаргу Францыі і ФРГ, якія ў гэтай сферы займалі дамініруючыя пазіцыі. Больш таго, стварэнне ЕАВС павінна было пакласці пачатак пераходу Францыі ад дзесяцігоддзяў канфрантацыі з Германіяй да супрацоўніцтва і партнёрства з ёй. Дагавор аб стварэнні Еўрапейскага аб’яднання вугалю і сталі быў падпісаны *18 сакавіка 1951 г.* у Парыжы на 50 гадоў. Уступіў у сілу 23 ліпеня 1952 г. У склад ЕАВС увайшлі Бельгія, Італія, Люксембург, Нідэрланды, Францыя і ФРГ. Вугальная і металургічная прамысловасць гэтых краін была пастаўлена пад сумесны міжнародны кантроль, былі ліквідаваныя мытныя пошліны на гэты тавар. Дагавор аб стварэнні ЕАВС прадугледжваў фарміраванне кіруючага органа гэтага аб’яднання, рашэнні якога з?яўляліся абавязковымі. Вярхоўны орган, які засядаў у Люксембургу, вызначаў памеры вытворчасці, капіталаўкладанні і ўзровень цэн на вугаль і сталь ва ўсіх краінах — членах ЕАВС.

Англія не падтрымала гэтую ідэю. Яна лічыла, што англійская сталь будзе больш таннай, чым еўрапейская. З другога боку, у Брытаніі існавала занепакоенасць, што ўдзел у еўрапейскай інтэграцыі негатыўна паўплывае на гандлёва-эканамічныя адносіны ў межах Садружнасці нацый. Па гэтых і другіх прычынах Англія не далучылася да ЕАВС.

*(Працяг будзе.)*

